# Тыднёвік Магілёўскі

№ 19 (19)
12.09.97.


ДЗЕНЬ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ Ў МАГІЛЁВЕ

## НАД БЕЛАРУССЮ ХМАРЫ, ХМАРЫ...

*У мінулым нумары ТМ мы надрукавалі хроніку святкавання ў Магілёве Дня Вайсковай славы з 1991 г., з таго часу як гэты гістарычны дзень стаў здабыткам грамадскай свядомасці. Замаўляючы гэты матэрыял фронтаўскаму лідэру А.Федараву, рэдакцыя нібы падводзіла рысу пад пэўным нацыянальна-адраджэнскім перыядам у жыцці мясцовых дэмакратаў. Жыццё гэтае ніколі не было лёгкім, бо заставалася амаль ўвесь час апазіцыйным, паколькі насельніцтва нашае так і не адчула патрэбы стаць народам. Таму і трывае, на сорам перад усім светам, такую ўладу, якая вядзе не з большай настойлівасцю, чым раней камуністы, працягвае нішчыць усё, што хоць трохі аддае беларускасцю.*

*Вось і падумалася, на грэх, што не здолеюць больш стомленыя і "заштрафаваныя" дэмакраты праводзіць адкрытыя імпрэзы ў памяць святых падзей роднай гісторыі. "Над Беларуссю хмары, хмары..." — як спявае Ігар Мухін-Рабянок. І гэтыя хмары згушчаюцца і цямнеюць. Дзе ж узяць тут сілы каб з дабром у душы і ў святочным настроі збірацца разам пад бел-чырвона-белым сцягам для ўрачыстага рытуалу прыняцця Прысягі на вернасць Бацькаўшчыне?! Насуперак рэчаіснасці і ўладнаму супраціву. З году ў год, дзень у дзень, гадзіна ў гадзіну...*

*Але ж людзі такія ў нас яшчэ ёсць! Гэтым разам, у мінулую нядзелю, іх прыйшло да месца "апазіцыйнай рэзервацыі", вызначанай рашэннем гарвыканкама, на пляцоўку перад ДК ЗИВ, 35 чалавек.*

*Кароткі мітынг. Разгорнутыя сцягі. Рытуал прыняцця Прысягі, да якой далучылася сёлета 10 юнакоў. (А ўсіх, хто ад 1991 г. афіцыйна і пад асабісты роспіс прынялі Прысягу, у Магілёве 120 чалавек). Нешмат?*








*Але вельмі дарэчы гучала на ўрачыстым мітынгу гістарычная ўзгадка аб тым, што на Крапівенскім полі пад Воршай маскоўскую арду захопнікаў сустрэла ўтрая меншае войска гетмана Канстанціна Астрожскага. Аднак перамаглі. Як гаворыцца, было б за што змагацца...*

*Хоць яму, нашаму старадаўняму войску, было, як не падасца дзіўным, лягчэй. Вораг быў вонкавы, быў вызначаны і бачны, не хаваў намераў. А ў нас сёння навала, што абрынулася на краіну, не вонкавая, а свая. Побач з намі, сярод нас, і ў нас саміх. Таму і так цяжка перамагчы яе, родную... Вось і паглядалі са здзіўленнем на ўрачыстасць з усіх вакон ДК і прыадчыненых яго дзвярэй работнікі "ідэалагічнага фронту". І, адводзячы ў бок вочы, малодзенькія маці хуценька запіхвалі ў легкавушкі выбягаючых пасля заняткаў сваіх дзетак, што вучаць у школах і розных гуртках гэтага і іншых "очагов культуры" зусім іншую гісторыю зусім іншай, хоць і сваёй краіны.*

*Над Беларуссю хмары, хмары...*

**ГЕНАДЗЬ СУДНІК.**

## АДСУДЗІЛІ ТЭЛЕВІЗАР

У старшыні магілёўскай філіі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Валерыя Сівухі ўлады забралі тэлевізар. Напомнім, што раней суд наклаў на яго штраф за "арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу" у Дзень Канстытуцыі. Гераічны ўчынак па адняццю тэлеапарата ажыццявіла судовы выканаўца Цэнтральнага райсуда Людміла Нікіціна. Начальства не адпускала жанчыну ў адпачынак, пакуль тая не прынясе ў пакрыццё штрафу "хоць што-небудзь".

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН.**

ЗВЕСТКІ З РЫНКУ

## Жанчын вучылі плаваць

У магілёўскім Тэхнічным ліцэі прайшоў семінар для жанчын, якія маюць намер заняцца прадпрымальніцтвам. Семінар арганізаваў Творчы Цэнтр COUNTERPART, што базуецца на Украіне.

Асноўнай ідэяй семінара была тая, што людзям патрэбна "умець плаваць". І тады жыццё не будзе падавацца часам такім безнадзейным. Іншымі словамі, трэба ўмець зарабляць грошы і правільна іх выкарыстоўваць. А паколькі такіх магчымасцяў найменш у жанчын, бо яны становяцца, як правіла, першымі ахвярамі беспрацоўя, яны і праявілі цікавасць да асноў прадпрымальніцкай тэорыі. А пасля 5-ці дзён вучобы многія з іх самастойна склалі бізнес-планы для сваіх камерцыйных ідэй.

Прымаць своеасаблівы экзамен у нашых будучых бізнесмэншаў прыехаў са Злучаных Штатаў прафесар Каліфарнійскага ўніверсітэту Уільям Мэлліос. У інтэрв'ю нашай газеце ён адзначыў, што быў прыемна ўражаны гатоўнасцю нашых жанчын пайсці па цяжкім рынкавым шляху, а здольнасці некаторых удзельніц семінара ён назваў проста бліскучымі. Гэта натхніла прафесара і на такое прадбачанне, што найбольшыя перспэктывы беларускай эканомікі палягаюць менавіта ў развіцці малога бізнесу. Як гэта ёсць у ЗША, дзе 85 адсоткаў працоўных месцаў краіне дае малы бізнес.

Перад жанчынамі-слухачкамі выступілі таксама добрыя спецыялісты ў галіне сучаснай беларускай эканомікі і гаспадарчага права. Яны адзначалі, што ў нас рынкавым структурам месца, на жаль, адведзена на самай узбочыне гаспадарчай прасторы. Аднак магчыма, што менавіта жанчынам, з іх упартасцю і іншымі выдатнымі якасцямі, удасца перамагчы і жорсткую рынкавую напругу, і ўмовы існавання, што стварыла ўсім нам палітыка так званага "рынкавага сацыялізму".

**ІВАН ЗАСАДА.**

## РАННЯЯ ПРАКТЫКА

Чатырох выкладчыкаў нямецкай мовы і дваццаці шэсці — англійскай не хапае ў школах Магілёва.

Пры маленькіх настаўніцкіх заробках людзі, што ведаюць замежную мову, ідуць зарабляць у камерцыйныя структуры. Таму гарадское ўпраўленне адукацыі вымушана пайсці на неардынарны крок: запрашаць на выкладчыцкую працу другакурснікаў мясцовай філіі Лінгвістычнага ўніверсітэта.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН.**



# МОЛОДИЙ РУХ – МАЛАДЫ ФРОНТ: КРОКИ НАСУСТРАЧ

*На мінулым тыдні гасцямі магілёўскіх "Патрыётаў Бацькаўшчыны" была група прадстаўнікоў Украінскага "Молодога Руха". Перад ад'ездам на радзіму для журналістаў мясцовых сродкаў інфармацыі была наладжана прэсавая канферэнцыя. Журналіст* ***Генадзь Суднік*** *падрыхтаваў з яе справаздачны камэнтар.*

Пяцёра ўкраінскіх студэнтаў прэзентавалі Луганскую і Харкаўскую арганізацыі маладзёвага адпаведніка палітычнай партыі "Народны Рух Украіны". А пазнаёміліся з імі магілёўскія маладыя фронтаўцы падчас летняга міжнароднага лагеру дэмакратычнай моладзі, што склаўся сёлета пад Цярнопалем. (Аб гэтым наша газета паведамляла ў нумары за 29-е жніўня). І вось адбыўся візіт у адказ. Тры магілёўскія дні дзелавога спаткання праляцелі хутка і першымі ўражаннямі журналістаў была атмасфера непадробленага смутку, які панаваў на прэсавай канферэнцыі, што папярэдзіла апошняй вячэры гасцей у спадабаўшымся ім Магілёве.

Яны разам з гаспадарамі за гэтыя дні наведалі праваслаўны Паднікольскі манастыр, касцёл св. Станіслава, грэка-каталіцкую каплічку. Шмат гулялі па гораду, пабывалі на выставах, пасядзелі ў кафэ. І, зразумела, увесь час працягвалі гаворку аб гісторыі, лёсах і перспэктывах сваіх краінаў. Нашых гасцей многае ўбачанае і пачутае здзіўляла. У сваю чаргу шмат што дзіўнага для сябе пачулі ад гасцей магілёўскія аднагодкі.

Напрыклад тое, што ў Луганскім педагагічным інстытуце, дзе навучаюцца трое з пяці ўкраінскіх сяброў, яны адкрыта дэманструюць сваё сяброўства ў "Молодим Руху" і не адчуваюць на гэтай глебе ніякага ўціску, а тым больш пераследу. І наогул украінскае студэнства — гэта асяроддзе нацыянальнага духу і дэмакратычных настрояў, з якім вымушанае лічыцца як грамадства ў цэлым, так і кіраўніцтва краіны. Госці паведамілі пра нядаўні Ўсеўкраінскі Кангрэс студэнтаў, куды неадкладна прыбыў старшыня ўрада, адклаўшы іншыя намечаныя на гэты дзень мерапрыемствы, сярод якіх былі нават афіцыйныя сустрэчы з замежнымі дэлегацыямі. У той жа дзень ён далажыў аб рэзалюцыях Кангрэсу прэзыдэнту, які ў сваю чаргу абвесціў краіну па тэлебачанні, што даў ураду шэраг даручэнняў, якія вынікалі са студэнцкіх патрабаванняў і асабіста бярэ іх пад кантроль. Гэта не выглядае дзіўным, калі пачуў пра тое, што ў арсэнале барацьбы студэнтаў за свае правы, умовы навучання і незалежнае развіццё краіны — дазволеныя Канстытуцыяй дзяржавы (як і ва ўсім цывілізаваным свеце) такія акцыі, як пікеты, мітынгі, а калі трэба — і суды.

Госці ўпэўнены і пераканаўча патлумачылі журналістам, што на Ўкраіне немагчыма выбранне прэзыдэнта накшталт нашага Лукашэнкі, які б так адкрыта праводзіў антынацыянальную і прарасейскую палітыку.

— Наш прэзыдэнт, выбары якога на Ўкраіне, дарэчы, у 1999-ым годзе, можа быць выбраны хоць бы сабе і з камуністаў, — заўважылі рухаўцы, — але гэта не зменіць курса краіны да незалежнасці, далучэння да Еўропы, а ў агляднным будучым і да NATO.

Зараз ужо пачалася перадвыбарчая кампанія. Прэзыдэнт Л.Кучма нечакана прапанаваў пад выглядам эканоміі дзяржаўных сродкаў аднесці парламенцкія выбары і сумясціць іх па часу з прэзыдэнцкімі. Народны Рух лёгка разгадаў гэтую, у духу Лукашэнкі, не надта хітрую камбінацыю. Яна разлічаная на падтрымку кандыдатуры Л.Кучмы з боку ўдзячных яму дэпутатаў, тэрмін паўнамоцтваў якіх ён прапануе незаконна падоўжыць, і на выкарыстанне магчымасцяў Вярхоўнай Рады ў правядзенні перадвыбарчай прэзыдэнцкай кампаніі. Нарастае палітычны скандал, у ходзе якога эфектыўным аргумэнтам тых, хто на баку закона і маралі, зьяўляецца спасылка на паводзіны беларускага суседа. Як толькі людзям на Ўкраіне паказваюць у бок Беларусі і тлумачаць на яе прыкладзе, чым можа абярнуцца "нязначнае і абгрунтаванае дзяржаўнымі інтарэсамі" адступленне ад Канстытуцыі, яны рашуча пераходзяць на бок абаронцаў закону, нават абмінаючы свае вузкапалітычныя інтарэсы. Беларускі прыклад (да нашага з вамі сораму) дапамагае суседзям умацоўваць сваю дэмакратыю.

Зразумела, што на гэтым шляху і ў нашых суседзяў яшчэ шмат перашкодаў, пра якія госці шчыра распавялі журналістам. Сярод найпершых — няспынныя спробы ў шэрагу "чырвоных" рэгіёнаў краіны працягнуць палітыку русіфікацыі. Гэта тычыцца школаў, дзе насуперак закону скарачаецца колькасць украінскіх класаў. На рускай мове працягваюць выходзіць многія мясцовыя газеты, ёю карыстаюцца камерцыйныя тэлеканалы. Аднак жа і нацыянальная свядомасць, асабліва ў маладзёвым асяроддзі, пашыраецца літаральна на вачах, і закон на баку тых, хто дбае пра будучыню краіны — таму прапагандысты "інтэрнацыяналізму і інтэграцыйнага працэсу" перспэктываў не маюць.

Украінскім гасцям шчыра падалося, што жыццё ў нас танней, чымсьці ў іх дома. Параўноўвалі студэнты, зразумела, толькі тое, чым карысталіся дома і тут. У нас танней праезд у грамадскім транспарце і па чыгунцы, а таксама сілкаванне ў сталоўках. Спадабаліся гасцям якасць і кошт магілёўскіх садавінных напояў і піва. Аднак, зрабіўшы гаспадарам такі камплімент, яны адразу падкрэслілі, што гатовыя наогул адмовіцца ад піва і таннай кілбасы, калі за іх давядзецца пасгупіцца той свабодай, якую яны рэальна адчуваюць у сваёй краіне. І вераць, што менавіта на падмурку свабоды і дэмакратыі ў іх будзе багатая і квітнеючая краіна, дзеля якой пакуль можна і патрываць некаторыя жыццёвыя цяжкасці, якія немажліва абмінуць, калі насамрэч будуецца новы гаспадарчы ўклад, у бок цывілізаваных змяняюцца вытворчыя і грамадскія адносіны ў вялікай краіне, якая назаўсёды развітваецца з камунізмам і былой дзяржаўнай залежнасцю.

— Хутка хто з нас, — пажартавалі на развітанне рухаўцы, — стане прэзыдэнтам Украіны. Вось тады і вам дапаможам ва ўсім. А пакуль не стамляйцеся ў сваёй працы на карысць роднай зямлі. Для маладых гэта самая пачэсная справа.

# Сябры БАЖу выступілі за прафесійнае сяброўства і салідарнасць

У Магілёве адбыўся сход творчых супрацоўнікаў шэрагу незалежных і дзяржаўных выданняў, якія аб'яднаныя сяброўствам у Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ). На ягоным пачатку сход разгледзеў новыя заявы на ўступленне ў Асацыяцыю і папоўніўся гэтым разам яшчэ дзвюма сябрамі.

Затым аб плане работы Рады Асацыяцыі на бліжэйшы перыяд журналістам паведаміў яе сябра Анатоль Гуляеў, які спецыяльна прыехаў з Мінску для сустрэчы з мясцовымі калегамі. Ён падрабязна распавёў аб апошніх мерапрыемствах Асацыяцыі ў абарону маскоўскіх тэлежурналістаў, якія сталіся аб'ектам несумленных палітычных гульняў лукашэнкаўскай адміністрацыі.

Трывогу грамадскасці і журналістаў выклікалі таксама захады былога замяталінскага ведамства (Дзяржкамітэта па друку), накіраваныя на змену існуючага Закона аб сродках масавай інфармацыі новым, падрыхтаваным гэтым "дзяржаўным дзеячом", вядомым сваёй нянавісцю да свабоднага слова і права грамадства на інфармацыю. Праект новага Закона ўводзіць палітычную цэнзуру, драконаўскія патрабаванні да крытычных друкаваных выказванняў, дае шырокія паўнамоцтвы органам кіравання, у тым ліку мясцовым, па абмежаванню дзейнасці любога сродка інфармацыі, які не спадабаецца начальству. Цяпер для закрыцця газэтаў патрабуецца прайсці адпаведную працэдуру, што ўмяшчае ў сябе колькі абаснаваных папярэджанняў з боку Дзяржкамітэта або Пракуратуры і, што самае галоўнае, — судовы разгляд справы. У новым законе такога няма.

БАЖ, паведаміў калегам А.Гуляеў, накіраваў лісты на хатнія адрасы кожнаму дэпутату, якія мусяць хутка разглядаць гэты закон, з папярэджаннем не рабіць гэтага, бо ў нашай краіне згіне ледзь не апошні дэмакратычны інстытут. Хаця спадзеву на тое, што так званая ніжэйшая палата лукашэнкаўскіх дэпутатаў прыме гэтае папярэджанне да ўвагі, шчыра сказаць, няма. Таму Рада БАЖ накіравала тэкст праекту замяталінскага закону шэрагу міжнародных праваабарончых, парламенцкіх і журналісцкіх арганізацый з просьбай аказаць свой уплыў на недапушчэнне канчатковай расправы ў Беларусі з вольным словам. Магілёўскія бажаўцы аднадушна ўхвалілі гэтыя захады сваёй Рады.

На жаль, ніякім чынам не праяўляе сябе з нагоды гэтай пагрозы Саюз журналістаў Беларусі. Прамаўчаў ён і па сітуацыі з творчымі групамі Шарамета і Адамчука, міжволі (бо не хочацца думаць, што свядома) спрыяючы раскольніцкай і таму небяспечнай палітыцы Лукашэнкі на падзел прафесіяналаў на сваіх і чужых, або, як гэта вызначае ён сам — на чэсных і нячэсных. Менавіта з імкнення не дапускаць такога падзелу БАЖ, як вядома, прыняў статутнае палажэнне, якое дапускае сяброўства журналістаў у абодвух арганізацыях — у Саюзе і БАЖы.

Сход магілёўскіх бажаўцаў абмеркаваў таксама свае арганізацыйныя пытанні, вылучыў удзельнікаў маючай хутка адбыцца ў Мінску міжнароднай журналісцкай канферэнцыі, якімі сталіся Г.Суднік і Э.Мядведзкі, зрабілі заяўкі на ўдзел у шэрагу прафесійных семінараў, што рыхтуюцца з удзелам БАЖу ў Беларусі і па-за яе межамі. Калегі дамовіліся таксама правесці ў калектывах мясцовых выданняў, незалежна ад формы іх фінансава-арганізацыйнага існавання, своеасаблівую "рэкламную" кампанію па распаўсюду аб мэтах, задачах і формах работы Беларускай Асацыяцыі журналістаў.

**Уласн. інфармацыя.**

# КУДЫ І НАВОШТА ЕЗДЗЯЦЬ ЧЫНОЎНІКІ

Канешне, яны ўсе патрыёты, апантаныя клопатамі аб родным краі. Але так хочацца пабываць там, дзе акрамя "адданасці", "абавязкаў" і "служэння" ёсць яшчэ што-небудзь. Дзе можна крышачку, гаворачы "бацькавай моваі", "адцягнуцца" і падумаць пра штосьці прыгожае, а тое, — і прыдбаць яго. Напрыклад, можна з'ездзіць у Нямеччыну, Славакію, Польшчу або Баўгарыю... Па справах, вядома, як гэта даводзіцца грамадству. Ці не праўда, не аднойчы чыталі вы ў афіцыйнай прэсе: "Были определены основные направления сотрудничества... намечены инициативы... налажены контакты... согласована программа оздоровления наших детей..."

Вось і апошні візіт у Радамскае ваяводства (Польшча) дэлегацыі гарвыканкама прайшоў вельмі плённа. Сустрэліся з камерсантамі і дамовіліся аб намерах. Наведалі муніцыпалітэт і адзначылі для сябе шмат цікавага. Пазнаёміліся з польскім бізнес-інкубатарам і яшчэ больш пераканаліся, што... І зразумела, імкнуліся кіруючыя магілёўцы ўсталяваць пабрацімскія сувязі. Зараз у нас нібы хвароба такая: ледзь што — давай брататца! Магчыма дзеля таго, каб было куды ездзіць чыноўнікам за дзяржаўны кошт.

Што тычыцца карысці для горада ад гэтых "дзелавых візітаў" — чытайце вышэй.

**СЫМОН ГЛАЗШТЭЙН.**

ПА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖНАГА ДРУКУ

# МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ

*На гэты раз мы прапануем вашай увазе артыкул з ужо добра знаёмай вам па папярэдніх публікацыях у ТМ беластоцкай "Нівы". Гэта — ліст у рэдакцыю ад маладой дзяўчыны з інфармацыяй пра пэўную падзею і адначасна гэта — ліст-разважанне на вельмі актуальную цяпер для нас з вамі тэму: дзе тая крыніца, ад якой мусім браць сілы? Ці нават кажучы прасцей: а ці будзе жыць Беларусь.*

Моладзь — гэта будучыня кожнай нацыі. Калі моладзь ведае сваю нацыянальную прыналежнасць, будучыня народа пэўная і стабільная. Таму ўжо нашым дзецям трэба гаварыць хто яны і вучыць роднай мове. Калі яны выхаваны ў такім духу, ім ніколі справы радзімы не будуць абыякавыя. Трэба вучыць маладых пашаны да культуры і традыцыі. У будучыні гэта ўсё яны перакажуць сваім дзецям і так нацыя будзе існаваць.

Неабходна пры гэтым памятаць, што да нічога нельга прымушаць. Не можна змусіць другога чалавека, каб адчуваў сябе кімсьці іншым. А маладыя людзі асабліва супраціўляюцца, калі хтосьці гаворыць што ім рабіць і як думаць. Малады чалавек павінен сам даведацца, хто ён і адкуль яго карані.

Мне, як усё ж вучаніцы беларускага ліцэя, заўсёды здавалася, што большая частка моладзі абыякава ставіцца да школы, да яе беларускасці і да таго, што яна сымбалізуе. Не гавару, што ўсе, але напэўна многія не хацелі прызнацца да сваёй нацыянальнасці. Аднак заўсёды былі і надалей ёсць сярод нас такія людзі, якім іх беларускасць паказваецца вельмі важнай справай і яны не саромяцца прызнацца да гэтага. У апошні час я пераканалася, што іх з году ў год штораз больш. Што прывяло мяне да такіх высноваў? А хаця б тое, што прынамсі ў нашай школе расце зацікаўленне Алімпіядай беларускай мовы, беларускімі мерапрыемствамі і агульна пошукамі сваёй тоеснасці. Найлепшы прыклад гэтаму — чарговы турнір беларускай моладзі.

Ён адбыўся ў Бельскім доме культуры і зьявіўся нагодай для сустрэчы маладых беларусаў. Арганізаваў турнір Звяз беларускай моладзі. Калі я прыйшла ў дом культуры, там было ўжо шмат маладых людзей. Сярод натоўпу адзначаліся людзі, апранутыя ў народныя беларускія кашулі. Прыйшло многа вучняў усіх класаў, нямала было і матурыстаў. У турніры прымалі ўдзел тры каманды: беларускія ліцэі з Бельска і Гайнаўкі і Беларускае аб'яднанне студэнтаў.

Перша канкурэнцыя — прадстаўленне камандаў — была даволі цікавая. Удзельнікі пастараліся і прыгатавалі гэта ў вельмі прыгожай форме. Кожная наступная канкурэнцыя таксама выклікала вялікі водгук публікі. Калі спявалі "Дзявочыя ноткі" з Бельска, праціўнікі не вытрымалі і пачалі танчыць. У спаборніцтве, на якім трэба было выпіць куфель малака, студэнты прайгралі прадстаўнікам абодвух ліцэяў, бо адмовіліся піць малако і запатрабавалі піва. Гульню ў колца і крыжык выйграў дырэктар Гайнаўскага ліцэя, таму што, як казаў адзін з членаў камісіі, у яго ёсць намеснік, з якім ён трэніруецца. Пані дырэктар з Бельска, на жаль, намесніка не мае.

Самым цікавым конкурсам быў паказ моды, дзе ўсе тры каманды прэзентавалі ўсё найлепшае. Гэтага нельга апісаць, гэта трэба было ўбачыць.

Праграма турніру прынесла вялікія эмоцыі ўдзельнікам і гледачам. Усе выдатна падрыхтаваліся да конкурсаў і таму ўзровень быў высокі. Да канца немагчыма было выявіць пераможцу. Урэшце перамогу аддалі Гайнаўцы, але мне здаецца, што не ў выніках тут справа. Турнір стаў нагодай для сустрэчы маладых беларусаў. Яны маглі пазнаёміцца і супольна паслухаць музыку на канцэрце пасля турніру, дзе выступілі рок-гурты. Моладзь, прыймаўшая ўдзел у гэтым мерапрыемстве, адчувала сваю беларускую супольнасць, а гэта значыць, што нацыя наша не загіне. У маладосці сіла, а маладая Беларусь — гэта сапраўдная магутнасць. Каб толькі не пагубіць гэтай свядомасці, а Беларусь жыць будзе, калі не мапе, так прынамсі ў сэрцах людзей.

**КАТАЖЫНА АЎСЯЙЧУК.**

